Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

№ 9 (5340)
Субота, 26 студзеня 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вострая тэма

## Гамлетаўскае пытанне па-слуцку

***Распачыналася ўсё амаль па-біблейску. Спачатку было Слова. Па-праўдзе кажучы, трывожнае, калі не злавеснае: з адукацыйнай карты Слуцка павінны знікнуць, так бы мовіць, пайсці ў нябыт сярэднія школы №№ 4 і 5 і два дзіцячыя садкі.***

***Слуцк дзень пры дні поўніўся чуткамі, якія інтэрпрэтаваліся абывацелем (грамадзянінам) на розны лад.***

***Урэшце дакаціліся яны і да Мінска. З сярэдняй школы № 5 патэлефанавалі: над старэйшай навучальнай установай горада навісла смяротная небяспека - яе мяркуюць закрыць, дасылаем у "Настаўніцкую газету" ліст, падпісаны педагогамі.***

***Інфармацыю прымаем да ведама, усведамляем, што слова цяпер - за нашым веданнем, разуменнем неардынарнасці сітуацыі, у якую патрапілі слуцкія педагогі.***

Вось і сам ліст. Эмацыянальна афарбаваны па сваім складзе, з адпаведным наборам аргументаў па сваёй сутнасці.

Прыводжу вытрымкі, захоўваючы стыль, арфаграфію.

*"...Чутка аб тым, што эканомія мясцовага гарадскога бюджэту будзе за кошт закрыцця школ, стала явай. Такога яшчэ не было ў гісторыі горада...*

*...Сярэдняя школа №5 мае багатую гісторыю, бо ёй ужо 67 год. На працягу ўсёй дзейнасці складваліся традыцыі, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне... Ідуць часы, мяняецца дэмаграфічная сітуацыя... На працягу апошніх гадоў колькасць вучняў у ёй не памяншаецца. Нягледзячы на тое, што ў раёне школы няма новабудоўляў, сёлета ў ёй навучаецца 576 вучняў з розных раёнаў горада.*

*...Мы, настаўнікі сярэдняй школы №5 Слуцка, задаёмся пытаннямі: чаму так дзееецца? Чаму так лёгка даецца рабіць разбуральныя захады на святое - дзіцячыя душы? І, нарэшце, губляемся: хто мы?*

*...У мінулым навучальным годзе прайшла франтальная праверка, якая паказала станоўчыя вынікі работы калектыву. Ды хіба магло быць інакш у тых, хто працуе, хто ўсяго сябе аддае дзецям, іх дабрабыту, у калектыве, які працуе зладжана, праводзіць творчыя пасяджэнні, павышае сваю кваліфікацыю. Ды што і казаць, калі 60 правяраючых знайшлі занятак у калектыве, які складаецца з 46 настаўнікаў.*

*З вуснаў загадчыка гарадскога аддзела адукацыі прагучалі словы: "Не трэба хваляваціца, працаваць будзем далей".*

*...А хмары навісаюць усё больш... Нявызначанасць лёсу... Нервовасць, чаканне".*

Пісьмо з такім зместам вартае асаблівай увагі.

Кірую ў Слуцк.

Першы візіт, безумоўна, у школу. Літаральна на яе парозе сутыкаюся з бацькамі вучняў, якія прыйшлі ў школу адразу пасля сустрэчы са старшынёй гарвыканкама Аляксандрам Сайко, на якой высвятлялі пытанне: што будзе са школай? Які лёс яе чакае?

Яны ўсхваляваныя, фактычна закідваюць вашага карэспандэнта інфармацыяй, пытаннямі. Вылучаю песімістычныя ноткі - маўляў, справы дрэнь, школа прыпыніць сваё існаванне...

Супакойваю. Даводжу, што іх просьбы ўлады абавязкова не пакінуць без увагі, як след вывучаць. А да вырашэння праблемы, якая так нечакана паўстала, падыдуць з разуменнем, з улікам усіх яе нюансаў.

Дырэктар Сяргей Мяцельскі дапамагае. Сяргей Віктаравіч як педагог, кіраўнік калектыву, асабліва зацікаўленая асоба ў станоўчым зыходзе справы, найперш пераконвае бацькоў, што кіраўніцтва раёна пранікнута адказнасцю, зацікаўлена ў паспяховым функцыянаванні адукацыйнай прасторы...

Лаўлю сябе на думцы: што значыць гутарыць з узрушанымі жанчынамі!..

...Цесны пакойчык-кабінет. Сяргей Віктаравіч выклікаў уражанне чалавека з аналітычным складам розуму, чалавека, які па волі лёсу апынуўся ў такім далікатным становішчы, і ён ні ў якім разе не злоўжывае даверам бацькоў, хаця ўспрымае іх блуканні па інстанцыях, візіты да адказных службовых асобаў вунь як чуйна!

У размове з ім найперш прыйшлі да высновы, што школа - не толькі сцены, будынак, гэта, па сутнасці, жывы арганізм, са сваім духам, укладам, традыцыямі, якія фарміраваліся не адно дзесяцігоддзе, з аурай, уласцівай толькі пэўнай навучальнай установе.

Забягаючы наперад, не магу не прывесці на гэты конт вытрымкі са школьнага сачынення колішняга выпускніка Сяргея Гурбо. Ён пісаў хораша і квяціста: "Гэта - маленькі свет, свая сталіца - школа № 5". Толькі, лічы, з-пад пяра юнага паэта-філосафа маглі выйсці радкі: "Аглядаючыся назад, пачынаю разумець, як шмат дала нам родная школа: выхавала веру ў чалавека, сумленнасць, праўдзівасць, дабрыню, усё тое, без чаго нельга жыць".

Дзякуй, Сяргей, за пранікнёныя і шчырыя словы!

Дзякуй Людміле Пятроўне Траццяковай, тваёй настаўніцы, выкладчыцы рускай мовы і літаратуры, якая апякуецца цяпер як класны кіраўнік 10 "В".

Сяргей Віктаравіч, фізік па адукацыі, выкладчык інфарматыкі, "абцяжараны" дырэктарскай пасадай, нязмушана скіроўвае размову на канкрэтыку, факты, якія красамоўна сведчаць як "за", так і "супраць".

Ён пагаджаецца, што дэмаграфічная сітуацыя ў Слуцку міжволі вымагае думаць пра тое, што адукацыйнай прасторы неабходна "сціснуцца" (недакамплект у школах горада складае сёлета больш за 2300 месц!), што будынак школы вунь колькі часу не рамантаваўся, да таго ж спартыўная зала пры ёй (у свой час самая шыкоўная і прасторная ў горадзе) выбрала адпушчаны ёй ліміт часу і, па сутнасці, патрабуе грунтоўнай рэканструкцыі.

З другога боку - дзе ўзяць на гэта грошы?

Мо таму Сяргей Віктаравіч горка пагаджаецца з тым, што кіраўніцтва горада ў закрыцці школы, перапрафіляванні яе і бачыць менавіта тую саломінку выратавання, якая зможа адвесці бяду ўвогуле, скажам так, ад сістэмы адукацыі Слуцка.

Зразумела, дырэктар не хаваў сваёй пазіцыі, што ён катэгарычна супраць намеру "сціснуць" адукацыйную прастору дзеля эканамічнай выгады за кошт закрыцця сярэдняй школы №5. Пры гэтым ён даў зразумець, што не мае ніякага дачынення да тых крокаў і захадаў, якія робяць настаўнікі, вучні, іх бацькі, увогуле добразычліўцы школы.

Тое, што пайшлі пісьмы, даводзіў ён, у адказныя ўстановы краіны, разнастайныя сродкі масавай інфармацыі, у даным выпадку вельмі вытлумачальна.

- Пахадзіце па школе, паразмаўляйце з настаўнікамі, паслухайце, што кажуць вучні.

...З намеснікам дырэктара Тамарай Дзмітрыеўнай Шаўчэнка зайшлі ў 10 "В" клас.

Імправізаванае бліц-інтэрв'ю з юнакамі ўпэўніла ў тым, што яны, як фізікі, так і лірыкі, увогуле патрыёты роднай школы, абвострана, да глыбіні душы успрымаюць бяду, якая насоўваецца, шчыра жадаюць адвесці ліха.

Андрэй Кашын, Максім Яновіч, Сяргей Вераб'ёў, Жэня Воюш, Аляксей Паўлоўскі, Павел Пятроў, Косця Крываль, Жэня Клешчанка былі ў сваіх маналогах па-юнацку непасрэдныя, пераканаўчыя ў высновах.

Хлопцы даводзілі, што наважыліся стаць афіцэрамі, паступаць у Акадэмію.

- Рэфармуюць школу, а нам яшчэ заканчваць 11-ы. Ці захаваем мы статус класа як будучых вайскоўцаў у іншай школе? - дапытваліся яны. - Няўжо парушыцца, - гарачыліся юнакі, - наша мара, гэтак блізкая да здзяйснення?

Шаноўны чытач, давялося мець размову і з адказнымі службовымі асобамі, якія бачаць у закрыцці шэрагу навучальных устаноў Слуцка своеасаблівую магчымасць пазбегнуць у будучым бядотнага эканамічнага стану адукацыі ў раёне, нават, мякка кажучы, засцярогу.

Намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Алікевіч горка прызнаўся, што яму не як службовай асобе, а як чалавеку, бацьку студэнта вельмі прыкра ўсведамляць, што даводзіцца ісці на такі крок, аднак рэаліі жыцця, яе вялікасць Эканоміка змушаюць да гэтага.

Сапраўды, Сяргей Львовіч, згодны, нельга замоўчваць факт: летась на рамонт аб'ектаў адукацыі горада былі выдзелены 23 мільёны рублёў, а каб вярнуць да жыцця тую ж спартыўную залу 5-й школы, неабходна за сто, як кажуць, з гакам, ды такім унушальным.

Што, ёсць пытанне?

А наконт таго, быць ці не быць сярэдняй школе, 5 лютага на чарговай сесіі гарадскога Савета, нагадваў ён, скажуць дэпутаты. Зразумела, да гэтага дэталёва вывучыўшы ўсе нюансы лёсаноснага пытання.

Загадчык аддзела адукацыі Слуцкага гарвыканкама Міхаіл Марачкоўскі хаця і аперырываў разлікамі, высновамі, прадыктаванымі часам, увогуле эканамічнай сітуацыяй у краіне, змушаны быў прызнацца, што не хацеў бы ў вачах, душах, сэрцах случчан быць нейкай адыёзнай фігурай...

...У перазменку быў зладжаны настаўніцкі сход. Адчуваю невымоўную атмасферу. Сяргей Віктаравіч паведамляе, што ён толькі што прыйшоў з сярэдняй школы №7, дзе вёў гаворку са сваім калегам пра тое, што тая можа прыняць класы-камплекты пятай. Большасць педагогаў можа мець надзею на працаўладкаванне. Частцы калектыву будзе прапанавана работа ў іншых навучальных установах горада. Гэта, маўляў, адзін з варыянтаў рэфармавання.

І толькі Сяргей Віктаравіч зрабіў паўзу, як Галіна Алейнікава, настаўніца пачатковых класаў, прадоўжыла:

- Сяргей Віктаравіч, ніякіх варыянтаў. Мы за адзіны - захаваць школу як самастойную.

Балючымі, горкімі былі словы Галіны Генадзьеўны і пра знітаванасць калектыву, унікальнасць яго, грунтоўную прафесійную падрыхтоўку, высокі рэйтынг школы, парушэнне ў гэтым выпадку правоў дзіцяці, скажэнне прэзідэнцкай палітыкі, ігнараванне Канстытуцыі.

І літаральна даслоўна ў адрас мясцовых уладаў:

- Не там шукаюць грошы!

Заўладарыла Слова! Эмацыянальнае. Аргументаванае і выверанае.

Адзін за другім выказваюцца педагогі - настаўнік фізкультуры Аляксандр Сталбавенка, настаўнік фізікі Дзмітрый Цароў, настаўнікі нямецкай мовы Наталля Лысая, Наталля Рабкова, настаўніцы рускай мовы Людміла Дзьякава і Наталля Грышына, географ Людміла Макарэня, настаўніца інфарматыкі Аксана Салава, матэматык Ірына Уласава, сацыяльны педагог Галіна Давыдчык, сакратар прафкама школы Галіна Пічугіна.

Кожнае выступленне - сімбіёз эмоцый і аргументацый, ды яшчэ такога напалу! Іх працінае толькі адно: школа мае права на жыццё.

Цікава, ці пойдуць 5 лютага слуцкія дэпутаты на даволі рызыкоўны крок - вынесці пятай школе смяротны прысуд?

**Уладзімір НОВІК.**

## 27 студзеня - Дзень беларускай навукі



Званне "Чалавек 2001 года" прысвоена прафесару, доктару медыцынскіх навук, загадчыку кафедры інфекцыйных хвароб Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта Валерыю Міхайлавічу Сямёнаву.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

*Аб праблемах і перспектывах беларускай навукі, аб людзях, што прысвяцілі ёй сваё жыццё, чытайце ў матэрыялах тэматычнай старонкі "Навука".*

Грамадскія аб'яднанні

## Лягчэй папярэдзіць захворванне, чым яго лячыць

***Большасць сваіх праблем чалавецтва прыдбала самастойна. Нецярпімасць, міжнацыянальная варожасць, розныя геапалітычныя інтарэсы, рэзкая дыспрапорцыя ва ўзроўнях жыцця - вось далёка не поўны спіс, які папоўніўся ў апошні час яшчэ адным "новаўвядзеннем" - нястрымнай глабалізацыяй усіх працэсаў жыццядзейнасці.***

Паводле прагнозу аналітыкаў Міжнароднай федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, у выніку пастаянных змяненняў свет стане больш інтэграваным і ўзаемазалежным. У ім значна лягчэй будзе адбывацца перамяшчэнне ідэй, людзей і капіталаў. Адкрыюцца новыя магчымасці, але разам з імі паявяцца і новыя пагрозы (фінансавая нестабільнасць, узброеныя канфлікты і г.д.), разрыў паміж беднымі і багатымі будзе павялічвацца як унутры краін, так і паміж імі. Усяго адзін прыклад. Калі ў 1960 годзе даходы насельніцтва самых багатых краін свету (20 працэнтаў насельніцтва Зямлі) у 30 разоў перавышалі даходы насельніцтва самых бедных краін (20 працэнтаў), то ў 1995 годзе былі большымі ўжо ў 82 разы.

Сучасныя гуманітарныя крызісы патрабуюць аператыўнага і комплекснага падыходу ў пераадоленні іх наступстваў. Углядаючыся ў кадры тэлевізійных рэпартажаў з месцаў баявых дзеянняў, стыхійных бедстваў, міжволі заўважаеш адну агульную дэталь: у іх прысутнічаюць санітарныя машыны або людзі з павязкамі з чырвоным крыжам. Гэта і не дзіўна, бо аказваць дапамогу параненым, аблягчаць чалавечыя пакуты, зыходзячы з прынцыпаў гуманнасці - ідэалогія Міжнароднага руху Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.

Аднак усім вядома, што значна лягчэй папярэдзіць захворванне, чым яго лячыць. І ў гэтым сэнсе неабходна адзначыць, што адукацыйнаму кампаненту сваёй дзейнасці Чырвоны Крыж як міжнародная грамадская арганізацыя ўдзяляе першаступеннае значэнне. Пра гэта сведчыць праведзены сумесна з Беларускім Чырвоным Крыжам і Міжнародным камітэтам Чырвонага Крыжа ў Мінскай вобласці семінар па падрыхтоўцы і рэалізацыі пробнага праекта "Даследуючы гуманітарнае права".

Што ж уяўляе сабой праект "Даследуючы гуманітарнае права"? Гэта пакет рэсурсаў для выкладчыкаў, якія працуюць з падлеткамі. Асноўная мэта праекта - фарміраванне ў маладых людзей прынцыпаў павагі да жыцця і чалавечай годнасці. Вучэбныя матэрыялы заснаваны на гістарычных і сучасных сітуацыях для таго, каб даць уяўленне аб міжнародным гуманітарным праве, прадэманстраваць, якім чынам яно спрабуе абмежаваць разбуральнасць войн, асабліва ў дачыненні да тых, хто не здольны змагацца. Гэтая катэгорыя ўключае грамадзянскіх асоб, дзяцей, параненых і ваеннапалонных.

Неабходна падкрэсліць, што найбольш відавочнай прычынай для інтэграцыі міжнароднага гуманітарнага права ў сістэму адукацыі з'яўляецца тое, што дзяржавы-ўдзельніцы Жэнеўскіх канвенцый прынялі прававое абавязацельства як мага шырэй укараняць вывучэнне гуманітарнага права. Як адзін з найбольш шырока ратыфікаваных інструментаў міжнароднага права гэтыя канвенцыі разам з Усеагульнай Дэкларацыяй правоў чалавека 1948 года і Канвенцыяй аб правах дзіцяці 1989 года можна разглядаць як неад'емную частку базавай адукацыі ў XXI стагоддзі.

Усе пяць дзён семінара на ўдзельнікаў абвальваўся паток вербальнай і аўдыёвізуальнай інфармацыі, якая, разам з тым, успрымалася і засвойвалася практычна поўнасцю. Гэтаму садзейнічала адкрытая, творчая атмасфера, характэрная для большасці інтэрактыўных праектаў, што прадугледжваюць узаемны ўдзел бакоў у вучэбным працэсе.

Акрамя ўводнай часткі, якая датычыць гісторыі і традыцый развіцця Чырвонага Крыжа, яго сімволікі, асноўнай часткі, якая ўключае азнаямленне з асноўнымі палажэннямі міжнароднага гуманітарнага права і падрабязнага разгляду адукацыйнай праграмы "Вывучаючы гуманітарнае права", былі прапанаваны як індывідуальныя, так і калектыўныя інтэлектуальныя трэнінгі. Дарэчы, менавіта абарона калектыўных праектаў на зададзеную тэму выклікала самую ажыўленую дыскусію. Інтэнсіўны абмен меркаваннямі красамоўна ўказваў на зацікаўленасць аўдыторыі, якая была прадстаўлена выкладчыцкім корпусам, навуковымі і медыцынскімі работнікамі, супрацоўнікамі Беларускага Чырвонага Крыжа і Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа. Узроставая палітра ўдзельнікаў семінара вагалася ў межах ад 20 да 50 гадоў, што таксама аказала станоўчы ўплыў, дазволіўшы атрымаць сінтэз жыццёвага вопыту і энергіі.

Як адзначыла Людміла Шынкарэнка, супрацоўнік Кіеўскай рэгіянальнай дэлегацыі Міжнароднага Камітэта Чырвонага Крыжа, асноўная мэта семінара была дасягнута, паколькі большасць выкладчыкаў выказала жаданне не толькі падрабязней азнаёміцца з праектам "Даследуючы гуманітарнае права", але і ўкараніць пробны курс непасрэдна ў навучальныя ўстановы.

**Андрэй МАЖАРА.**

# Весткі

## Вучоба і праца побач

У Дулебскім дзіцячым доме Бярэзінскага раёна пачаліся праблемныя этапныя курсы "Сучасныя падыходы да арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ў інтэрнатнай установе". Паўгода педагагічны калектыў дзіцячага дома будзе працаваць над акрэсленай праблемай.

Адкрыла курсы дацэнт Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Вера Сянько. Яна на працягу трох дзён асвятляла пытанні выхавання падлеткаў-сірот. Выступяць тут і вучоныя ды метадысты Мінскага абласнога ІПК (арганізатара курсаў).

## За справу ўзяліся браты Асіповічы

Цікавую гуртковую работу па натуралістыцы ладзяць у Радашковіцкай школе-інтэрнаце Маладзечанскага раёна браты-выхавальнікі Асіповічы - Аляксандр і Андрэй, нядаўнія выпускнікі факультэта прыродазнаўства БДПУ імя М.Танка.

Складанне калекцый, вывучэнне флоры і фауны мікрараёна Радашковіч, дзейнасць навуковага таварыства "Юны натураліст", прыродазнаўчыя экскурсіі, вывучэнне нораваў свойскай жывёлы - вось далёка не поўны пералік таго, чым займаюцца з дзецьмі браты Асіповічы, ураджэнцы тутэйшых мясцін.

## Як да месца факультатыў

Вельмі добра прыжыўся ў Валожынскай школе-інтэрнаце факультатыў "Этыка і этыкет узаемаадносін", які выкладае дырэктар установы Ніна Жданюк. Культура паводзін, культура ўзаемін, свет вакол нас і этыкет, этыка сямейнага жыцця, узаемаадносін у дыядзе "дзяўчына - юнак" - гэтыя і іншыя пытанні вывучаюць, вырашаюць старшакласнікі. А практычныя заняткі плануюцца і ў дзіцячых садках горада, і ў бальніцы, і ў мясцовым кафэ, і ў клубе маладажонаў. "Праз гэты факультатыў мы рыхтуем нашых выхаванцаў да свядомага жыцця", - гаворыць Ніна Уладзіміраўна.

## Калі за плячыма стаж

Шмат гадоў працуе ў Халопеніцкім дзіцячым доме, што на Крупшчыне, Аляксандра Глліннік. Без малога 30-гадовы педагагічны стаж дапамагае ёй на належным узроўні ладзіць выхаваўчую работу з дзецьмі-сіротамі. Як намеснік дырэктара па выхаванні Аляксандра Аляксееўна арганізоўвае экскурсіі і падарожжы па гарадах рэспублікі, ладзіць дні імянніннікаў, дыскатэкі, кансультуе падлеткаў па розных пытаннях. Аляксандра Аляксееўна выкладчык замежнай мовы, вопытны педагог-метадыст.

## Ай ды "Сузор'е"!

Ёсць у Клецкім дзіцячым доме ўзорная вакальная студыя "Сузор'е", якую наведваюць 25 выхаванцаў. Кіруе студыяй педагог Сяргей Іванавіч Галубкоў.

Віталь Абрамовіч, Сяргей Вілько, Таня Лагун, Іна Барадзька, Тамара Лібер, Марына і Юля Чухлебы... Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі лічаць сцэну сваёй стыхіяй, сэнсам жыцця. У будучым яны мараць аб прафесійнай сцэне.

Два гады назад Міністэрства культуры прысвоіла калектыву "Сузор'е" званне "узорны". Расказваюць, калі прадстаўнічая камісія слухала "сузор'еўцаў", то была настолькі ўзрушана, што выклікала юных артыстаў на "біс", была зачаравана асобнымі выступленнямі.

Удзельнікі студыі штогод даюць больш як 100 канцэртаў. Выхаванцы "Сузор'я" - актыўныя ўдзельнікі і лаўрэаты Усебеларускага конкурсу "Усе мы родам з дзяцінства". (Асаблівы поспех выпаў на долю Стаса і Таццяны Кан.) "Сузор'еўцы" - неаднаразовыя лаўрэаты рэспубліканскага конкурсу юных талентаў інтэрнатных устаноў "Вясёлкавы карагод". З поспехам выступалі яны таксама ў сталіцы Італіі Рыме і горадзе Вітэрбо.

## "Мы не адны..."

Клецкі дзіцячы дом каторы год супрацоўнічае са шматлікімі фондамі. Толькі летась яму аказана гуманітарная дапамога на суму 52935332 рублі. Установе перададзены, ірландцамі, напрыклад, аўтамабіль "Форд-транзіт". Ірландскія добразычліўцы адрамантавалі жылы корпус і пральню. За 17 дзён прывялі да ладу чатыры класныя пакоі, пакоі гігіены, калідор, майстэрню для хлопчыкаў, швейную майстэрню для дзяўчынак. У пральні ірландскія сябры ўстанавілі новае абсталяванне, адрамантавалі памяшканне. А галандская дабрачынная арганізацыя "Дзікія гусі" зрабіла рамонт сталоўкі і запусціла кухоннае абсталяванне (на 12000 долараў ЗША).

Штогод за мяжой адпачывае не менш 100 дзяцей-сірот. "Мы не адны...", - кажуць у Клецкім дзіцячым доме. І яны маюць рацыю.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ.**

